# Беларуская традыцыя

Працяг з 6-й бачыны

Сп. Тацьцяна асаблівую ўвагу зьвярнула на дзейнасьць Станіслава Шушкевіча. "Нярэдка можна пачуць фразу: "За часы Шушкевіча", -- кажа яна. -- Складаецца ўражаньне, што гэты чалавек (які быў пэўны час першай асобай у дзяржаве) спрычыніўся да нашай незалежнасьці як змагар, як чалавек, які здабываў незалежнасьць. Пэўна ж, ён вучоны, доктар навук ды і "дэмакрат". Чытаючы стэнаграму сэсіі пераконваешся якраз у адваротным -- і гэта моцна ўражвае. Як сьведчаць дакумэнты, менавіта Шушкевіч да апошняга часу сэсіі быў катэгарычна супраць (!) незалежнасьці Беларусі. Ён называў гэта "бязглуздзіцай". Ён пастаянна падтрымліваў пазыцыю камуністаў, намэнклятуры, пастаянна рабіў розныя "шпількі" у бок змагарнай Апазыцыі. Я раней успрымала С. Шушкевіча як чалавека вучонага і перадавых дэмакратычных поглядаў. На справе ён аказаўся, на маю думку, у той сытуацыі нікчэмным. Ён ня толькі не дапамагаў Апазыцыі ў яе змаганьні, але ўсяляк перашкаджаў ёй, не даваў слова ці не зважаў на заўвагі змагароў і быў самым пасьлядоўным працяўнікам незалежнасьці. "Здаўся" ў пытаньні пра незалежнасьць ён толькі ў канцы, калі ўжо канчаткова здаліся камуністы разам з Малафеевым". Уразілі сп. Тацьцяну ня толькі яго паводзіны, але і зьмест яговых прамоваў - часам не разумееш, што ён хацеў сказаць, ясна толькі, што супраць апазыцыі. У якасьці ілюстрацыі сваіх думак яна зачытала некаторыя выступы С. Шушкевіча.

Сп. Красоўская выказала перакананьне, што прыйдзе час і імёнамі тых дэпутатаў, якія дабіліся аднаўленьня незалежнасьці, назавуць плошчы і вуліцы, будуць створаны музеі пра іхняе змаганьня. "Мы павінны памятаць пра іх і быць ім удзячнымі", -- падсумавала сваю прамову сп. Тацьцяна.

Андрусь Падлескі пачаў свой выступ з катэгарычнай заявы: "Я кнігу не чытаў, але абавязкова буду чытаць! На той час, калі разгортваліся гэтыя падзеі, я працаваў на заводзе "Інтэграл" звычайным працаўніком. У нас было ўнутранае радыё, і мы (калі пачалася сэсія) сядзелі нашым цэхам і слухалі пасьля зьмены трансьляцыю. Гэта слухалася лепш за любую музыку, што звычайна неслася ў эфір. Гэта таксама мая гісторыя і маё жыцьцё."

Натальля Федарэнка падзялілася, зь якім захапленьнем чытала кнігу З. Пазьняка да позьняй ночы: "Гэта на самой справе цікава. Мы павінны ведаць сваю сапраўдную гісторыю. Цяпер ёсьць кніга, выдадзеная з аналізам усёй сытуацыі", -- выказалася Н. Федарэнка і падзякавала сп. Зянону Пазьняку за тое, што адбылося ў нашай гісторыі, за аднаўленьне таго, што фактычна было зьнішчана.



Прамаўляе Натальля Сідарэнка

Старшыня Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня Ганна Сурмач успамінала: "Падчас змаганьня за незалежнасьць Беларусі я знаходзілася разам з усімі там, на плошчы Незалежнасьці. Я добра памятаю тыя падзеі, бо гэта найбольш важнае, што адбылося ў маім жыцьці. І зараз, усьлед за моладдзю, я б хацела ад нас, старэйшых, хто пераніжыў гэта ўсё на ўласным лёсе, падзякаваць сп. Зянону Пазьняку за ўсё зробленае практычна дзеля аднаўленьня нашай незалежнасьці і за тое, што ён гэта ўсё ўвекавечыў для гісторыі, што гэта ўжо ніхто ня здолее выкрэсьліць з нашай памяці. Напісанае – застанецца!"

"Але, гэтая старонка нашай гісторыі, -- зазначыла выступоўца, -- ужо перагорнутая. Уся гэтая справа аднаўленьня незалежнасьці была зроблена добра, годна. Але вынікі нашай рэвалюцыі зараз спажываюць злачынцы і несумленныя людзі.

Тое, што гэтая падзея ўвекавечана – вельмі важна. Але ня толькі ў гэтым значэньне гэтай кнігі, гэтай нашай гаворкі. Мы сёньня ўзгадваем гэту гісторыю, цешымся, што маем незалежнасьць. Але давайце глянем на рэальнае жыцьцё сёньня. Нашая незалежнасьць, якую здабылі з такімі цяжкасьцямі, як ніколі знаходзіцца ў самай вялікай небясьпецы. Ндаўнія падзеі, якія адбыліся ў сьвеце, зьмянілі і сытуацыю ў Беларусі. Арабскія рэвалюцыі ў краінах, дзе ў іхных дыктатарскіх рэжымах ня так даўно шукаў сяброў Лукашэнка, у асноўным перамаглі, дыктатуры абваліліся і ўсе добра зразумелі, што можа чакаць дыктатараў. Захад заявіў, што ня хоча больш весьці ніякіх перамоваў з Лукашэнкам. Сытуацыя дайшла да таго, што Лукашэнку сёньня трэба тэрмінова шукаць выйсьця, каб яго не спасьцігнуў лёс Каддафі ці нешта падобнае. Гэта стан, калі ён загнаны ў кут, і таму цяпер ідзе небясьпечны гандаль Беларусьсю. Ён гандлюецца з Масквой. І гэта ўжо ня тое, што было раней (калі ён гуляў з Расеяй у розныя гульні). Цяпер гэта ўжо ня гульні, а сур'ёзныя справы. І ён можа здаць Беларусь за сваё ўласнае жыцьцё, здаць Расеі; краіна, народ – для яго нішто ў параўнаньні са сваёй скурай.

Сёньня нашая незалежнасьць, здабытая з такім вялікім намаганьнем, -- стаіць на мяжы: ці застанецца яна нашай ружовай мараю, ці надалей застанецца асьвячаць жыцьцёвы шлях нашага народу ?

Цяпер мы ўсе, каму дарагая будучыня нашай краіны, павінны задумацца, што можна зрабіць рэальна, каб пазьбегнуць хуткага захопу Беларусі Расеяй, пакуль гэта ня сталася.

Вось, мне здаецца, галоўная роля гэтых кнігаў - тое, што яны нам паказваюць, якой працай, якімі намаганьнямі здабытая была незалежнасьць, як яе трэба шанаваць і як сёньня трэба за яе ізноў змагацца. Мы ня можам толькі цешыцца тым, што набылі. Перад новым пакаленьнем сёньня стаіць тая ж задача: здабытую незалежнасьць замацаваць так, каб яна засталася з намі на вякі."

Пасьля дыскусіі прысутныя мелі магчымасьць паглядзець новы дакумэнтальны фільм рэжысёра Алеся Кудрыцкага (з удзелам і тэкстам З. Пазьняка), зроблены ў пачатку 2011 г., "Дарога ў Вільню". Гледачы ўбачылі помнікі, сядзібы, старыя муры беларушчыны, якія зараз разбураюцца горш, чым пры саветах (тады ў палацах былі нейкія ўстановы і будынкі неяк дагледаліся). Цяпер гэта ўсё кінута і валіцца, бо людзі, якія зараз ва ўладзе на Віленшчыне, абыякавыя да нашай гісторыі і культуры -- іх тут раней ніколі не было, гэта ня іхняя культура і гісторыя.

У фільме ёсьць расповяд пра "Паўлаўскую рэспубліку" – адну з цікавых старонак нашай гісторыі. Паўла Брастоўскі – малады энэргічны князь у канцы XVIII стагоддзя ў Паўлаве каля Тургеляў скасаваў прыгоннае падданства сялян і ўвёў рэспубліканскае самакіраваньне.

"Гэты фільм зроблены дзеля таго, -- падкрэсьліў Зянон Пазьняк, аўтар тэксту, і сцэнару фільма, -- каб беларусы расплюшчылі вочы на самых сябе, на Віленшчыну, што засталася як бы "за мяжой" і не дасьледуецца беларусамі. Помнікі ж павінны захоўвацца".

Прысутныя высока ацанілі фільм. "Ён зьняты бездакорна. Не магу назваць ніводнага слова ў гэтым фільме, якое б было тут "чужым". Зроблены ён надзвычай добра, і створаны, фактычна, двума аўтарамі: рэжысёрам Алесем Кудрыцкім і Зянонам Пазьняком (у фільме гучаць яго вершы). Гэта сапраўды па мастацку дасканалае і вельмі зьмястоўнае кіно", - выказала сваё ўспрыняцьце Ганна Сурмач.

Падсумоўваючы сустрэчу, З. Пазьняк адказаў на пытаньні, падзякаваў выступоўцам за прыхільнасьць і зацікаўленьне спадчынай Беларусі.

На завяршэньне імпрэзы слова было прадстаўлена прысутнаму ў залі Уладыку Сьвятаславу, які распавёў пра зробленую ім выставу беларускіх выданьняў, якія былі надрукаваныя беларусамі ў лягерах ДП ў паваеннай Нямеччыне. На гэтую выставу зьвярнуў увагу прысутных у сваім выступе сп. Пазьняк.

Уладыка лічыць сваім абавязкам клапаціцца пра выхаваньне вернікаў не толькі праз царкоўныя дзеяньні, але праз захаваньне і папулярызацыю нацыянальнай гісторыі. Шмат гадоў пад час сваіх паездак ў беларускія асяродкі ён зьбіраў гэтыя выданьні, некаторыя з іх засталіся ў лічаных асобніках. Выстава вельмі зацікавіла прысутных.

*Марыля Якушэвіч*

**Веснкі з Вільні**

# Сустрэча ў Таварыстве Беларускай культуры

24 верасьня ў сядзібе ТБК адбылася традыцыйная штомесячная імпрэза. Гэтым разам у праграме была сустрэча з вядомым дзеячам, архітэктарам незалежнасьці Рэспублікі Беларусь – Зянонам Пазьняком, і прэзентацыя этнаграфічнага фільма пра Віленскі край "Дарога ў Вільню" з госьцем у галоўнай ролі. Аўтарам фільма зьяўляецца малады беларускі рэжысёр Алесь Кудрыцкі.



Выступ Зянона Пазьняка

Высокі ўзровень імпрэзе надала прысутнасьць яшчэ аднаго высокашанаванага госьця, япіскапа Віленскага й Нью-Ёркскага Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, уладыкі Серафіма. Айцец Серафім доўгі час свайго жыцьця служыў ва Украіне. Там дамогся дазволу на правядзеньне праваслаўных службаў па-беларуску, арганізаваў у горадзе Севастопалі беларускамоўныя службы, а некалькі месяцаў таму прайшоў абрад хіратоніі (рукапакладзеньня), прыняўшы сан япіскапа. Уладыка валодае некалькімі адукацыямі: мае ступені па юрыдычнай і тэалагічнай навуках, абараніў дзьве дысэртацыі па багаслоўі, зьяўляецца доктарам навук, ведае некалькі моваў.

Насычаная праграма мерапрыемства пачалася з прамовы айца Серафіма, якую ўладыка пачаў з дабраслаўленьня ўсіх прысутных. Далей уладыка гаварыў пра важнасьць захаваньня ў грамадзтве духоўных, рэлігійных каштоўнасьцяў і культуры, якія зьяўляюцца важнай часткай агульначалавечай культуры. Таксама ў сваёй прамове ўладыка закрануў тэму беларускай праваслаўнай царквы: кожная цывілізаваная краіна мае права й мусіць мець сваю нацыянальную царкву, таму важна ўмацоўваць і разьвіваць беларускую аўтакефальную царкву. Уладыка завяршыў сваю прамову цытаваньнем Сьвятога Пісаньня, а менавіта словамі аднаго з Божых запаветаў – "шануйце маці сваю й бацьку", бо краіна наша – гэта нашая Маці, таму наш як дзяцей абавязак любіць і шанаваць яе і рабіць усё магчымае дзеля яе.



Прамаўляе ўладыка Серафім

Пасьля пранікнёнага выступу айца Серафіма думкамі й увагай аўдыторыі авалодаў сп. Зянон Пазьняк. Сп. Зянон распавёў пра ягоныя мэты гэтай сустрэчы. Адной з галоўных мэтаў зьяўляецца паказ фільма "Дарога ў Вільню", у якім сам госьць распавядае пра культурна-архітэктурную спадчыну беларусаў на Віленшчыне. У фільме закранута вельмі цікавая і малавядомая тэма занядбаньня ўсходніх ад Вільні раёнаў, хаця некалькі стагодзьдзяў таму тут, бліз сталіцы вялікай дзяржавы, усюды былі цэнтры культуры: палацы, касьцёлы, маёнткі, квітнеючыя мястэчкі. У фільме сп.Пазьняк распавядае, што й як было на гэтых землях раней, якія тут вядомыя людзі і шляхецкія роды жылі, працавалі, будавалі тут архітэктурныя помнікі, і ў якім стане занядбаньня й абыякавасьці гэта ўсё знаходзіцца ў наш час. Пасьля паказу фільма сп. Зянон заклікаў усіх, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі й культурнай спадчынай Вялікага Княства, ды й проста неабыякавых людзей распрацоўваць тэму Віленшчыны як на навуковым узроўні, так і на аматарскім: езьдзіць, наведваць, фатаграфаваць тыя прывіленскія маёнткі й мястэчкі, якія некалі квітнелі і дзе калісьці буяла нашая гісторыя. Таксама сп. Пазьняк адзначыў бліскучую працу над фільмам рэжысёра Алеся Кудрыцкага і прызнаўся, што не спадзяваўся на такі выдатны вынік працы, улічваючы даволі неспрыяльныя ўмовы здымкаў (усе жадаючыя могуць паглядзець фільм па спасылцы: http://www.youtube.com/watch?v=zcD42U93AxU).

Наступнай мэтаю сустрэчы была прэзентацыя новых выданьняў госьця. Гэтымі выданьнямі зьяўляюцца кнігі, прысьвечаныя 20-годзьдзю незалежнасьці Рэспублікі Беларусь – "Сэсія незалежнасьці" і "Незалежнасьць Беларусі. 20 гадоў", а таксама супольная кніга Зянона Пазьняка і Сяргея Навумчыка "Дэпутаты незалежнасьці" (ёсьць у вольным доступе па спасылцы http://kamunikat.org/download.php?item=14996-1.pdf)

Пасьля прэзентацыі выданьняў адбылася адкрытая дыскусія прысутных з госьцем. Былі зададзеныя шматлікія пытаньні на тэму палітыкі й культуры. Сярод ключавых пытаньняў была праблема выбараў на Беларусі, у якім Зянон Пазьняк прытрымліваецца цьвёрдай пазыцыі ўсеагульнага байкоту. Госьць тлумачыў сваё перакана765ньне адсутнасьцю рэальных выбараў на Беларусі; вынікі іх вядомыя задоўга да галасаваньня, галасы людзей ніхто не лічыць, і адзінае што патрэбна рэжыму – яўка грамадзянаў на выбарчыя ўчасткі, таму нельга сваім удзелам дапамагаць рэжыму атрымліваць чарговыя "элегантныя перамогі". На жаль, з-за абмежаванасьці часу задаць сваё пытаньне змаглі не ўсе, але пасьля заканчэньня афіцыйнай часткі імпрэзы жадаючыя падыходзілі да сп. Зянона для асабістай размовы, а таксама з задавальненьнем набывалі кнігі з подпісам аўтара. А ўвечары Зянон Пазьняк наведаў выступ беларускага рэп-выканаўцы Вінсэнта, які адбываўся на цэнтральным праспекце Гедыміна ў межах Дня народаў. Палітык пазнаёміўся з маладым музыкам, пагутарыў са шматлікімі беларусамі, якія таксама прыйшлі на гэтае сьвята.

*Вітальд Паўлюкевіч.*
*Вільня, верасень. 2011.*

# Весткі з Севастопалю

1 кастрычніка 2011 у Севастопалі на мысе Гвардзейскі каля помніка Славы сябры беларускай суполкі запалілі сымбалічную паходню Свабоды ў гонар 80- гадовага юбілею паэта і грамадзкага дзеяча Ніла Гілевіча. На севастопальскім радыё таксама прагучала перадача, прысьвечаная юбілею Ніла Сымонавіча, якую падрыхтавала Ганна Малахоўская-Васюніна, сяброўка суполкі. У сядзібе Таварыства адбылася імпрэза, была парчытана малітва за здароўе паэта. Севастопальскія беларусы, якія шануюць і любяць творчасьць Ніла Гілевіча, пажадалі яму творчых посьпехаў і выказалі ўпэўненасьць, што дзякуючы такім волатам духу, як Ніл Гілевіч, беларускасьць на Бацькаўшчыне захаваецца і пераживе тую сёньняшнюю ўладу, якая бессаромна нішчыць усё беларускае і гатовая, як у народзе кажуць, "прадаць крыжы з дзядоўскіх магілаў".

Ад імя нашага Севастопальскага таварыства беларусаў быў накіраваны ліст на адрас старшыні Харкаўскай праваабарончай групы Яўгена Захапава з просьбаю падтрымаць вылучэньне на Нобелеўскую прэмію старшыні Беларускага праваабарончага цэнтру "Вясна" Алеся Бяляцкага.

*Старшыня Севастопальскага таварыства беларусаў імя Максіма Багдановіча "Пагоня"*

*Валеры Барташ*

*Галоўная управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня інфармуе ўсе структуры БАЗА і ўсіх зацікаўленых пра зьмены, якія адбыліся ў структуры арганізацыі ў выніку прынятага Галоўнай управаю рашэньня, тэкст якога падаецца ніжэй:*

## РашэньнеГалоўнай управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня пра статус Нью-Ёркскага аддзелу ў структуры БАЗА

Галоўная управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня на пасяджэньні 25 верасьня 2011 году канчаткова абмеркавала сытуацыю, якая склалася ва ўзаемаадносінах паміж Нью-Ёркскім аддзелам і Галоўнаю управаю БАЗА.

У выніку дэталёвага разгляду справы было канстатавана, што кіраўніцтва Нью-Ёркскага аддзелу ўжо досыць працяглы час – ад пачатку 2010 году не падтрымлівае канструктыўных працоўных зносінаў з Галоўнаю управаю, як вышэйшым кіраўнічым органам БАЗА між Кангрэсамі, беспадстаўна заяўляе аб нелегітымнасьці Галоўнай управы.

З боку Галоўнай управы шмат разоў былі зробленыя спробы і прапановы для нармалізацыі адносінаў, аднак кіраўніцтва Аддзелу канструктыўна не рэагавала на іх і працягвала адасабляцца ад агульнай дзейнасьці БАЗА. Нью-Ёркскі аддзел дэманстратыўна не прыняў удзел у двух апошніх Кангрэсах БАЗА. На гадавы справаздачна-выбарчы сход Аддзелу 14 траўня 2011 не былі дапушчаныя прадстаўнікі Галоўнай Управы. У выніку Галоўная управа вымушана была на пасяджэньні 12 чэрвеня 2011 году прыняць зварот да кіраўніцтва і сяброў Нью-Ёркскага аддзелу, дзе прапанавала ім да 20 ліпеня 2011 правесьці агульны сход Аддзелу і канчаткова вызначыцца, ці зьбіраюцца яны заставацца структураю БАЗА і наладзіць нармальныя працоўныя адносіны з галоўным выканаўчым органам БАЗА. Аднак, Галоўная управа ў прапанаваны ім тэрмін не атрымала ніякага рэагаваньня ад кіраўніцтва Нью-Ёркскага аддзелу на гэтую прапанову аб спыненьні канфлікту.

Такім чынам, Галоўная управа БАЗА лічыць, што яна выкарыстала ўсе даступныя ёй магчымасьці і сродкі на ўрэгуляваньне адносінаў са сваёй падпарадкаванай структураю і мусіць афіцыйна канстатаваць факт, што Нью-Ёркскі аддзел паставіў сябе ў сытуацыю, калі ягоная дзейнасьць працяглы час адбываецца з грубымі парушэньнямі Статуту БАЗА (Канстытуцыя – Арт. 8, Устаў – Арт. 1, пар.2, Арт. 3, пар.1, Арт. 9, пар. 2, пар. 11), і, фактычна, вядзецца па-за структураю БАЗА.

Прымаючы пад увагу гэтую сытуацыю і той факт, што яна адмоўна ўплывае на дзейнасьць цэлай арганізацыі БАЗА і не можа далей заставацца без разьвязаньня, Галоўная управа прыняла наступнае Рашэньне:

- прызнаць права Нью-Ёркскага аддзелу на выяўленае імі працяглы час імкненьне да самавыключэньня са структуры БАЗА
- не лічыць ад 25 верасьня 2011 году Нью-Ёркскі аддзел структурай БАЗА з усімі выцякаючымі з гэтага юрыдычнымі наступствамі

Права прыняць Галоўнай управаю рашэньне пра далейшы статус Нью-Ёркскага аддзелу дадзена Статутам БАЗА (Канстытуцыя – Арт. 8, Устаў – Арт.1, пар.3, Арт. 3, пар. 1, 2, п. 4, Арт. 9, пар.2, пар.11) і падцьверджана адмысловай Рэзалюцыяй, прынятай на чарговым Кангрэсе БАЗА 28 травеня 2011.

У гэтай сытуацыі супольнасьць сяброў былога Аддзелу, якую не задавальняе дзейнасьць у складзе БАЗА, можа зарэгістраваць сябе, як асобную самастойную арганізацыю з назваю дастаткова рознаю ад БАЗА ў беларускім і ангельскім варыянтах.

Галоўная Управа прапануе сябрам Нью-Ёркскага аддзелу, якія пажадаюць застацца ў шэрагах БАЗА, правесьці ўстаноўчы сход, абраць новае кіраўніцтва і падаць просьбу ў Галоўную управу пра закладаньне новага Аддзелу БАЗА пад той самай ці іншаю назваю, калі колькасьць прысутных сяброў на сходзе будзе не менш за 10 чалавек (прысутных асабіста ці праз пісьмовыя ўпаўнаважаньні).

Тым сябрам Нью-Ёркскага Аддзелу, якія асобна будуць выбіраць для сябе мейсца далейшай дзейнасьці, прапануецца далучыцца да іншых дзеючых структураў БАЗА.

*Галоўная управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня*
*25 верасьня 2011*

## Прэмію імя Міколы Ганька атрымала "Бацькаўшчына"

У офісе Згуртаваньня беларусаў свету "Бацькаўшчына" адбылося ўручэньне гэтай арганізацыі прэміі імя Міколы Ганька.

Мікола Ганько (1924-1999) – вядомы рэлігійны і грамадскі дзеяч Канады, шматгадовы старшыня Згуртаваньня беларусаў Канады і царкоўнай Парафіі імя Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта, аўтар шматлікіх артыкулаў на тэмы беларускага жыцьця ў Канадзе.

Прэмію заснавала ў 2009 годзе ягоная ўдава Марыя Ганько, аўтарка кнігі "Каб сьведчылі пра Беларусь", якая выйшла ў выдавецтве "Бацькаўшчына" ў 2005 годзе. У гэтай кнізе шмат цікавых фактаў з жыцьця беларускай дыяспары ў Канадзе. Але галоўнае ў ёй – сьветлае і моцнае пачуцьцё любові, якое Марыя і Мікола пранесьлі праз многія гады.

Ляўрэатамі гэтай прэміі ўжо сталі вядомая пісьменьніца Вольга Іпатава (2009) і рэдактарка газэты "Беларускае слова" Віялета Кавалёва (2010), за зьместоўныя і цікавыя матэрыялы пра жыцьцё беларусаў у Канадзе.

*Ю.Трубец*



**У сядзібе ЗБС "Бацькаўшчына" пад час уручэньня прэміі**

## Знакаміты Лары Кінг хацеў бы папрацаваць у Беларусі



Амерыканскі тэлевядоўца Лары Кінг хацеў бы наведаць Беларусь, каб узяць інтэрв'ю ў шэрагу беларускіх грамадскіх дзеячоў. «Калі мне дазволяць - вядома», - заявіў ён у інтэрв'ю радыёстанцыі «Эхо Москвы», дадаўшы, што гэта цікава, паколькі ў Беларусі ёсць «вялікая колькасць праблемаў».

Л. Кінг паведаміў, што ягоная маці нарадзілася ў Менску.

*10.10.2011*

## Суд над Алесем Бяляцкім

2 лістапада ў Менску пачаўся судовы працэс у крымінальнай справе кіраўніка праваабарончага цэнтру «Вясна» віцэ-прэзыдэнта Міжнароднай фэдэрацыі правоў чалавека Алеся Бяляцкага. У першы дзень пракурор зачытаў абвінавачваньне. Суд пачаў дапытваць Бяляцкага. Працэс працягваецца.



# Дзіцячая старонка

## Заяц і Вожык

**Беларуская народная казка**



У вадзін ясны сонечны дзень стаяў вожык каля дзьвярэй свайго дому, склаўшы рукі на жываце, і напяваў песеньку. Сьпяваў ён сваю песеньку, сьпяваў і раптам уздумаў: «Пайду я на поле ды на сваю бручку зірну. Пакуль мая жонка дзяцей мые ды апранае, я пасьпею і ў поле схадзіць і вярнуцца дадому».

Пайшоў вожык і сустрэўся падарозе з зайцам, які таксама йшоў у поле на сваю капусту паглядзець.

- Добры дзень, паважаны заяц! Як вы маецеся?

А заяц быў вельмі важны й горды. Замест таго, каб ветліва прывітацца з вожыкам, ён толькі кіўнуў галавою ды сказаў груба:

- Што гэта ты, вожык, так рана па полі лётаеш?

- Я на шпацыр выйшаў, - кажа вожык.

- На шпацыр? - запытаўся заяц насьмешліва. - А па-мойму, на такіх кароценькіх ножках далёка ня зойдзеш.

Пакрыўдзіўся вожык за гэткія словы. Ня любіў ён, калі гаварылі пра ягоныя ногі, якія запраўды былі кароткія ды крывыя.

- Ці ня думаеш ты, - запытаўся ён у зайца, - што твае ногі бегаюць хутчэй і лепш?

- Вядома, - адказаў заяц.

- А ці ня хочаш ты зы мною навыперадкі пабегчы? - пытаецца вожык.

- З табою навыперадкі? - кажа заяц.

- Не сьмяшы ты мяне, калі ласка. Няўжо-ж ты на сваіх крывых нагах мяне абгоніш?

- А вось пабачым, - адказвае вожык.

- Убачыш, што абганю.

- Ну, давай пабяжым, - кажа заяц.

- Пачакай, - адказвае вожык, - спачатку я схаджу дадому пасьнедаю, а праз паўгадзіны вярнуся на гэтае месца. Тады і пабяжым. Добра?

- Добра, - сказаў заяц.

Пайшоў вожык дадому. Ідзе й думае: «Заяц, вядома, хутчэй за мяне бегае. Але ён дурны, а я разумны. Я яго перахітру».

Прышоў вожык дадому і кажа жонцы:

- Жонка, апранайся хутчэй, прыдзецца табе зы мною ў поле йсьці.

- А што здарылася? - пытаецца вожычыха.

- Ды вось мы з зайцам паспрачаліся, хто хутчэй бегае - я ці ён. Я павінен зайца абагнаць, а ты мне ў гэтай справе дапаможаш.

- Што ты - звар'яцеў? - зьдзівілася вожычыха. - Ён-жа цябе адразу перагоніць.

- Не твая справа, жонка, - сказаў вожык. - Апранайся хутчэй ды пойдзем. Я ведаю, што раблю.

Апранулася жонка ды пайшла з вожыкам у поле.

Падарозе вожык кажа жонцы:

- Мы пабяжым з зайцам вось па гэтым доўгім полі. Заяц пабяжыць па аднэй баразьне, а я па другой. А ты, жонка, стань у канцы поля каля маёй баразны. Як толькі падбяжыць пад цябе заяц, ты крыкні: «Я ўжо тут!». Зразумела?

- Зразумела, - адказвае жонка.

Так яны й зрабілі. Завёў вожык жонку на канец свае баразны, а сам вярнуўся на тое месца, дзе пакінуў зайца.

- Ну, што-ж - кажа заяц, - пабяжым?

- Пабяжым, - адказвае вожык.

Сталі яны кажны ў пачатку свае баразны.

- Раз, два, тры! - крыкнуў заяц.

І абодвы яны пабеглі з усіх ног.

Прабег вожык крокаў тры-чатыры, а потым ціхенька вярнуўся на сваё месца і сеў. Сядзіць ды адпачывае. А заяц усё бяжыць ды бяжыць. Дабег да канца свае баразны, а тут вожычыха яму і крычыць:

- Я ўжо тут!

А трэба сказаць, што вожык і вожычыха вельмі падобныя адзін да другога. Зьдзівіўся заяц, што вожык яго перагнаў.

- Пабяжым цяпер назад, - кажа ён вожыку. - Раз, два, тры!

І пусьціўся заяц назад хутчэй. А вожычыха засталася сядзець на сваім месцы.

Дабег заяц да пачатку баразны, а насустрач яму вожык крычыць:

- Я ўжо тут!

Яшчэ больш зьдзівіўся заяц.

- Пабяжым яшчэ раз, - кажа ён вожыку.

- Добра, - адказвае вожык. - Калі хочаш, пабяжым яшчэ раз.

Так семдзесят тры разы бегаў заяц туды й назад.

А вожык усё яго пераганяў. Прыбяжыць заяц да пачатку баразны, а вожык крычыць: «Я ўжо тут».

На семдзесят чацьверты раз дабег заяц да сярэдзіны поля ды паваліўся на зямлю.

- Умарыўся, - кажа, - не магу больш бегаць.

- Вось бачыш цяпер, у каго ногі лепшыя?

Нічога не адказаў заяц і пайшоў з поля - ледзь ногі пацягнуў.

А вожык з вожычыхай паклікалі сваіх дзяцей і пашлі зь імі на шпацыр.



*Беларускія казкі. Мюнхен, 1957*

# BELARUS ART

*Прадстаўляем на гэтай старонцы новую мастацкую працу Ксені Капыткі. Ксеня цяпер вучыцца у каледжы і не мае дастаткова вольнага часу на творчую працу. Але, час ад часу ёй удаецца знайсьці вольныя хвіліны і заняцца любімай справаю – маляваць на беларускую тэматыку. Гэтым разам яна намалявала вобраз беларускай жанчыны ў нацыянальнай вопратцы, знайшла яго у адной з кніжак па гісторыі беларускага нацыянальнага адзеньня.*



**Жанчына ў традыцыйным строі з наміткай. Пачатак XX ст. Варатынічы, Кобрынскі раён.**

## Сьв. пам. Аляксандра Сямёнава

3.10.1925 – 11.09.2011



Аляксандра (Шура) Сямёнава (дзявочае Заруцкая) была родам са Стоўпцаў. Сям'я Заруцкіх выехала зь Беларусі ў 1944 годзе. Шура скончыла Беларускую гімназію імя Я. Купалы ў Міхэсьдорфе ў Заходняй Нямеччыне ў 1946 г. , выйшла замуж за Дзімітрыя Сямёнава. Яны эмігравалі ў Злучаныя Штаты. У іх нарадзілася дачка Раіна. Муж Дзімітры ў выніку хваробы памёр у 1982 годзе. Шура да выхаду на пэнсію працавала ў біялягічнай лябараторыі Ратгерскага ўнівэрсытэту недалёка ад месца жыхарства ў гор. Эдысан каля Нью Брансўіку. Была актыўнай прыхаджанкай царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд Парку. Удзельнічала ў беларускім культурным жыцьці , у этнічным руху штату Нью Джэрзі, у беларускіх мастацкіх выстаўках і паказах народнага адзеньня. Сьлядамі бацькоў пайшла дачка Раіна, удзельніца славутага танцавальнага гуртка "Васількі". Шура Сямёнава адзначалася лагодным характарам, моцным зацікаўленьнем культурнымі падзеямі, шмат падарожнічала, любіла таварыскае жыцьцё, падтрымлівала грамадзкія справы й была ўвесь час у сяброўскія дачыненьнях з грамадой. Пахаваная нябожчыца на беларускім могільніку ў Іст Брансўіку. Вечная ёй памяць.

*Янка Запруднік*

## Смутак па генію

Напачатку кастрычніка ў ЗША ва ўзросьце 56 гадоў ад цяжкай хваробы памёр Стыў Джобс - заснавальнік кампаніі Apple, якую ён разам з партнёрамі адчыніў 30 гадоў таму.



Сьмерць гэтага чалавека, думкі і ідэі якога так шмат зьмянілі ў сучасным сьвеце, для вельмі многіх людзей сталася сапраўдным шокам. Сам жа Стыў звык жыць з думкаю аб тым , што канец ягонага зямнога шляху можа наступіць у любы момант пасьля таго, як у 2004 годзе ў яго знайшлі ракавую пухліну. Пра перамены пасьля гэтай весткі ў сваім успрыняцьці жыцьця і сьмерці, пра тое, які кароткі час зямнога жыцьця і пра ягоную мэту звычайна сьціплы Джобс распавёў у 2005 годзе на сустрэчы з выпускнікамі Стэнфарду - адным са сваіх самых эмацыянальных і адкрытых выступаў. Кампутарны геній таксама падзяліўся з моладдзю сваімі жыцьцёвымі назіраньнямі, якія могуць быць павучальнымі для шмат каго з нас: "Ваш час абмежаваны, таму не трацьце яго на тое, каб пражыць чужое жыцьцё. Не пападайце ў закладнікі догмаў, не кіруйцеся ў жыцьці вынікамі мысленьня іншых людзей. Не дазваляйце шуму меркаваньняў іншых заглушыць ваш уласны ўнутраны голас, сэрца і інтуіцыю. Менавіта ўнутраны голас, сэрца і інтуіцыя нейкім чынам ужо ведаюць, кім вы сапраўды хочаце стаць. Усё астатняе – другаснае".

*Ганна Сурмач*

## Дзяды ў Нью-Ёрку

30 кастрычніка ў Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага адбылася памінальная малітва з нагоды Дня ўшанаваньня памяці памерлых, які ў Беларусі адзначаецца 2 лістапада і згодна з даўняй традыцыяй называецца – Дзяды. Малітву правялі япіскапы БАПЦ – Уладыка Сьвятаслаў і Уладыка Серафім ў прысутнасьці вернікаў. Кожны пад час набажэнства згадваў сваіх супачылых родных і блізкіх, а таксама маліліся за ўсіх сыноў і дачок Беларусі, якія аддалі сваё жыцьці за Бацькаўшчыну, ці сталіся ахвярамі войнаў, дыктатарскіх рэжымаў ды Чарнобылю.

*Ганна Сурмач*

## Сьв. памяці Анатоль Лук'янчык



11 кастрычніка 2011 ва узросьце 79 гадоў адышоў ад нас паважаны Анатоль Лук'янчык, прэзыдэнт Беларуска-Амэрыканскага грамадзкага цэнтру "Полацак", уладальнік Lukjan Metal Products Inc., сябра Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, актыўны парафіянін Царквы Маці Божай Жыровіцкай у Кліўляндзе. Адзін з актыўнейшых беларусаў Амэрыкі, за сваё доўгае жыцьцё ён прайшоў праз шматлікія выпрабаваньні – даваеннае дзяцінства ў Заходняй Беларусі, вайна, лягеры DP у Заходняй Нямеччыне, эміграцыя ў Амэрыку, вайна у Карэі, праца, заснаваньне сямейнага бізнэсу, арганізацыя беларускага жыцьця ў ЗША, узгадаваньне дзяцей і унукаў...

Сп. Анатоль быў працавітым, сумленным і вельмі сьціплым чалавекам. На усё і на ўсіх яму хапала часу, шмат хто ў Амэрыцы і Беларусі захоўвае пачуцьцё падзякі яму за дапамогу. Цяжка пералічыць усё, да чаго ён прыклаў свае рукі, розум і уласныя грошы. Анатоль браў самы чынны ўдзел у стварэньні беларускага асяродку ў Кліўляндзе з грамадзкім цэнтрам і царквою, дапамагаў новапрыбылым эмігрантам, падтрымліваў Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына", даваў ахвяраваньні манастыру ў Жыровічах, розным беларускім выданьням, Цэнтру беларускіх дасьледаваньняў у Канзасе, беларускім мастакам, пісьменьнікам, грамадзкім і палітычным дзеячам, навукоўцам, простым людзям, хворым дзецям...

Ніводнае беларускае сьвята ў Амэрыцы ці Канадзе не абыходзілася без сп. Анатоля . добры сьпявак, сардэчны і вясёлы чалавек, ён вельмі любіў сваю Радзіму, сваю мову, свой народ.

Няхай зьвіняць званы ў Жыровіцкай сьвятыні, падараваныя сп. Анатолем , няхай гарацыь сьвечкі памяці ў беларускіх цэрквах, няхай добры ўспамін застаецца ў душах усіх тых, каму давялося ў жыцьці быць побач ці судакрануцца з годным чалавекам і выдатным Беларусам! Вечная памяць сп. Анатолю Лук'янчыку і няхай будзе лёгкаю яму амэрыканская зямля, што прыняла яго на вечны супачын!

Спачуваньні жонцы Натальлі, дачцэ Алене, сыну Даніэлю, унукам Алікс, Самуэль, Наталі і Мэры, братам і сёстрам.

*Д-р Сяргей Раманюк*
*Кліўлянд*

Галоўная управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня выказвае глыбокі смутак у сувязі з адыходам у вечнасьць сп. Анатоля Лук'янчыка – старшыні Беларуска-Амэрыканскага Грамадзкага Цэнтру "Полацак".

Беларуская эміграцыя ў Амэрыцы страціла аднаго са сваіх самых актыўных і адданых беларускай справе дзеячаў. Усё ягонае жыцьцё было зьвязанае з грамадзкім жыцьцём і клопатамі беларускай паваеннай эміграцыі ў Амэрыцы. Не толькі свой вольны час, але і заробленыя цяжкай працаю ва ўласным бізнесе грошы сп. Анатоль шчодра аддаваў на беларускія справы, быў адным з тых, хто пабудаваў знакаміты цяпер ва ўсім беларускім сьвеце - Беларускі цэнтр у Кліўляндзе – "Полацак". Шмат дапамагаў ён і суродзічам на на Бацькаўшчыне. Ягонае спагадлівае, добрае сэрца заўсёды адклікалася на шматлікія просьбы аб дапамозе.

Бясконца доўга не будзе хапаць нам гэтага сьветлага, прыгожага, годнага Чалавека. Вечная памяць яму і падзяка за ўсё зробленае!

Шчыра спачуваем з нагоды незваротнай страты жонцы сп. Анатоля Натальлі і ўсёй ягонай сям'і, а таксама цэлай беларускай грамадзе ў Кліўляндзе.

*Ад імя Галоўнай управы БАЗА*
*Старшыня Ганна Сурмач*

## Спачуваньне

Галоўная управа БАЗА выказвае шчырае спачуваньне сяброўцы БАЗА сп. Але Кузьміцкай з нагоды сьмерці ў Беларусі ейнага брата Яўгена.

# Каляндар памятных датаў на лістапад 2011 году

**2 лістапада** – Дзяды - дзень памінаньня памерлых

**4 лістапада** – 195 гадоў таму, у 1816 годзе, нарадзіўся Арцём Вярыга –Дарэўскі, пісьменьнік, удзельнік паўстаньня 1863 году

**6 лістапада** – 120 гадоў таму, у 1891 годзе, нарадзіўся Іосіф Воўк-Левановіч, мовазнавец

**7 лістапада** – 115 гадоў таму, у 1896 годзе, нарадзіўся Міхась Чарот, паэт, грамадзкі дзеяч

**10 лістапада** – Сусьветны дзень моладзі

**12 лістапада** – Дзень памяці сьв. мучаніка Язафата Кунцэвіча, эабіты ў Віцебску 12 лістапада 1623 году

**13 лістапада** – 175 гадоў таму, у 1836 годзе, нарадзіўся Яраслаў Дамброўскі, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху

**14 лістапада** – 95 гадоў таму, у 1916 годзе, у Пецярбургу выйшаў першы нумар грамадзка-палітычнай беларускай газэты "Дзянніца" пад рэдактарствам Цішкі Гартнага

**14 лістапада** – 25 гадоў таму, у 1986 годзе, памёр Мікола Улашчык, гісторык, археограф, археоляг, этнограф, краязнаўца, літаратар

**16 лістапада** – Дзень Маці Божай Вострабрамскай – апякункі Беларусі

**17 лістапада** – 105 гадоў таму, у 1906 годзе, нарадзіўся Янка Багдановіч, пісьменьнік, мемуарыст

**19 лістапада** – 20 гадоў таму, у 1991 годзе, створана Беларускае прыватнае агенства навінаў (БелаПАН)

**20 лістапада** - 110 гадоў таму, у 1901 годзе, нарадзіўся Міхась Зарэцкі, пісьменьнік

**21 лістапада** – 90 гадоў таму, у 1921 годзе, нарадзіўся Янка Юхнавец, пісьменьнік, дзеяч эміграцыі ў ЗША

**21 лістапада** – 85 гадоў таму, у 1926 годзе, у Віцебску адкрыты Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа

**23 лістапада** – 145 гадоў таму, у 1866 годзе, памёр Адам Кіркор, беларускі і польскі гісторык, этнограф, грамадзкі дзеяч

**23 лістапада** - 140 гадоў таму, у 1871 годзе, нарадзіўся Уладзімір Тэраўскі, кампазітар, харавы дырыжор, фальклярыст

**23 лістапада** - 105 гадоў таму, у 1906 годзе, выйшаў першы нумар газэты "Наша Ніва"

**24 лістапада** – 15 гадоў таму, у 1996 годзе, у Беларусі адбыўся рэфэрэндум, які скасаваў Канстытуцыю 1994 году, быў распушчаны Вярхоўны Савет 13-га скліканьня, Дзень незалежнасьці быў перанесены на 3 ліпеня і краіна пачала рухацца назад – у савецкае мінулае

**26 лістапада** – 120 гадоў таму, у 1891 годзе, нарадзіўся Янка Станкевіч, грамадзка-палітычны дзеяч, мовазнавец, гісторык, выдавец, публіцыст, педагог, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**26 лістапада** – 115 гадоў таму, у 1896 годзе, памёр Канстанцін Ельскі, падарожнік, заоляг, географ, геоляг

**27 лістапада** – 90 гадоў таму, у 1921 годзе, нарадзіўся Уладзімір Тарасевіч, рэлігійны і грамадзкі дзеяч эміграцыі ў ЗША

**30 лістапада** – 420 гадоў таму, у 1591 годзе, нарадзіўся Андрэй Баболя, рымска-каталіцкі дзеяч, місіянер, сьвяты



Сардэчна віншуем Маргарыту Пярову з Санкт Пецярбурга, якой 28 кастрычніка споўнілася 70 гадоў. Шлем найлепшыя пажаданьні, перадусім моцнага здароўя, посьпехаў у грамадзкай працы, як актыўнай сяброўцы тамтэйшай беларускай суполкі .

Зычым таксама плёну ў пошукавай працы па зьбіраньню зьвестак па гісторыі Беларусі і непасрэдна пра род Луцкевічаў, з якога паходзілі Яніна Каханоўская – наша маці і бабуля і ейная сястра Марыя – маці Маргарыты.

*Юля і Багдан (Данчык) Андрусышын*
*Элеанора Норык*

Віншуем старшыню Бруклінскага аддзелу БАЗА Тацьцяну Красоўскую, якая нядаўна ў другі раз сталася бабуляю. У ейнага сына Міхася, які жыве ў Лёндане, нарадзілася другая дачка. Жадаем Тацьцяне і сям'і Міхася шмат радасьці ад гэтага багатага прыбытку і жадаем маленькай доўгага шчасьлівага жыцьцёвага лёсу

*Сябры Бруклінскага аддзелу*

## Вікторыя Азарэнка ізноў стала трэйцяю ракеткаю сьвету



Так высока ацаніла спартовыя посьпехі беларускай тэнісісткі ў сваім новым рэйтынгу Жэнеўская тэнісная асацыяцыя (WTA).

Да гэтага Вікторыя займала чацьвертую ступеньку ў сусьветным рэйтынгу. На адну ступеньку вышэй спартоўка паднялася дзякуючы выхаду ў фінал выніковага турніру WTA у Стамбуле.

## На выданьне "Беларуса" ахвяравалі:

**Томас Бёрд - $200**
*(у гонар 85-х угодкаў ад нараджэньня сп.Янкі Запрудніка)*

**Каця.Вініцкая - $100**

**Каця Вініцкая - $100**
*(замест кветак на магілу сп.Аляксандры Заруцкай-Сямёнавай)*

**Лёля Касоўская-Лапіцкая - $100**

**Лёля Касоўская Лапіцкая - $100**
*(у памяць Аляксандра Кольбы)*

**Н.Федарэнка - $50**

**Выказваем шчырую падзяку ўсім ахвярадаўцам!**

БЕЛАРУС
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
***Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне***

BIELARUS
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
***Belarusan American Ass'n, Inc.***

**Склад Рэдакцыі:**
Ганна Сурмач – адказны рэдактар (surmacova@gmail.com)
Андрусь Падлескі – адказны за кампутарную вёрстку
Таня Красоўская – скарбнік, арганізатар падпіскі (premiere718@yahoo.com)
Галіна Падлеская – рэдактарка дзіцячай старонкі galinapodles@hotmail.com
Валеры Дворнік - адказны за друк
Натальля Старавойтава - адказная за рассылку газэты

Артыкулы падпісаныя прозьвішчамі ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.

**Адрасы Рэдакцыі:**
Паштовы адрас:
***Hazeta Bielarus***
***166-34 Gothic Drive***
***Jamaica, NY 11432***
***USA***

**Грашовыя чэкі выпісываць на імя :** ***BIELARUS newspaper***
дасылаць скарбніку на адрас : T.Krasovskaya PO BOX 1958, New York, NY, 10025

**Электронны адрас (email): bielarus@bazahq.org**

*Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.*